Кліз, Г.С. Губернатарскія канцылярыі ў Беларусі 30—60х гг. XIX ст. / Г.С. Кліз // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 56-65.

**Г.С. Кліз**

# ГУБЕРНАТАРСКІЯ КАНЦЫЛЯРЫІ Ў БЕЛАРУСІ 30—60х гг. XIX ст.

Вывучэнне губернатарскіх канцылярый на тэрыторыі Беларусі ў 30—60я гг. XIX ст. можна падзяліць на два пытанні. Першае — губер натарская канцылярыя як установа і яе характарыстыка (структура,



склад, функцыі і арганізацыя дзейнасці), другое — асабовы склад канцылярыі — чыноўніцтва. Гэтыя пытанні яшчэ не атрымалі ўсебаковага адлюстравання ў даследаваннях, за выключэннем чыноўніцкага корпуса, вывучэннем якога займаецца А. А. Кісялёў і разглядае персанальны склад губернатарскіх канцылярый канца XVIII — першай паловы XIX ст. [1], а таксама пытанняў арганізацыі справаводства, над якімі працуе І. М. Шпілеўская [2]. У сваіх артыкулах яна звяртае ўвагу на нарматыў направавое забеспячэнне справаводства ў канцылярыях губернатара, разглядае асноўныя заканадаўчыя акты імперыі, прысвечаныя гэтаму пытанню, і выкарыстоўвае архіўныя матэрыялы, у асноўным па Мінскай губерні. Такі стан гістарыяграфіі пытання дазваляе, на нашу думку, мэтай дадзенага артыкула лічыць неабходнасць разгледзець структуру, склад, функцыі і арганізацыю дзейнасці губернатарскіх канцылярый бе ларускіх губерняў у акрэслены перыяд.

На губернатара была ўскладзена вялікая колькасць спраў і абавяз каў, якія нельга было адолець адной асобе, таму ён кіраваў губерняй пры дапамозе сваёй канцылярыі, бо яна з’яўлялася сувязным звяном губернатара з падначаленымі ўстановамі і з вышэйшымі органамі ўлады імперыі.

Губернатарская канцылярыя прымала ўсю дакументацыю, якая прыходзіла на імя губернатара, адпраўляла выходныя дакументы. Таму асноўнай функцыяй канцылярыі было дакументацыйнае забеспячэнне дзейнасці губернатара, выкананне сакратарскіх абавязкаў. Таксама канцылярыя з’яўлялася архівам спраў і кніг, якія былі ўжо завершаны і перададзены на пастаяннае захаванне з мэтай іх далейшага выкарыстання. Аднак на прыкладзе канцылярыі віцебскага губернатара можна сцвярджаць, што архіў гэты насамрэч з’яўляўся свайго роду складам для непатрэбных папер канцылярыі, бо «архіў губернатарскай канцылярыі мае толькі адну вонкавую форму некаторага парадку, так як большая частка спраў знаходзіцца ў звязках і размяшчаецца па паліцах, аднак у сутнасці сваёй архіў знаходзіцца ў поўным беспарадку. … Перадача спраў у архіў адбывалася без усялякага парадку, без вопісаў, без распісак і без дакладнага разбірання спраў» [3, арк. 120—120 ад.]. Вядзенне, выкарыстанне, захаванне спраў і кніг пашырала функцыі ўстановы. У канцылярыю звярталіся асобы для пацвярджэння правоў, атрымання пасведчанняў, звестак і інш. Прыклады можна знайсці ў вопісе спраў 6-га стала канцылярыі магілёўскага грамадзянскага губернатара за 1846— 1847 гг.: «…пра дастаўленне звестак, якія датычацца набыцця маёнткаў…», «…пра падачу звестак, у які час набылі сялян…», «…адносна вы-

дачы… пасведчання…» [4] і г. д. Справы выконваліся вельмі марудна. Напрыклад, перапіска з астраханскім ваенным губернатарам аб высылцы дакументаў канцылярыстаў мінскага губернатара, якія пераехалі на службу ў Астраханскую губерню, цягнулася з 23 кастрычніка 1836 г. па 30 красавіка 1837 г. [5].

Доўгі час свайго існавання канцылярыя не мела структурных пад раздзяленняў. Справы вырашаліся агульным патокам без групавання па прыкметах. Толькі ў пачатку 30х гг. XIX ст. былі створаны сталы, кож ны з якіх разглядаў пэўнае кола пытанняў. Так, напрыклад, канцыля рыя віцебскага губернатара была падзелена на 6 сталоў у 1830 г., магі лёўскага — у 1831 г., а мінскага — у 1837 г. [6]. У розных губернях раз меркаванне функцый паміж сталамі не было аднолькавым і залежала ад мясцовых асаблівасцей. Так, канцылярыя віцебскага губернатара падзя лялася на паліцэйскі, казначэйскі, гаспадарчы, статыстычны, агульных спраў і судны сталы. Рэвізія гэтай канцылярыі ў 1853 г. выявіла, што справы знаходзіліся ў вялікім беспарадку. Ва ўсіх сталах назіралася ма руднасць і адсутнасць кантролю за выкананнем распараджэнняў [3, арк. 53, 64, 74 ад., 111 ад., 113 ад.]. Толькі сакрэтныя справы ў боль шасці сваёй вяліся дакладна і акуратна [3, арк. 103]. Так, напрыклад, справы паліцэйскага стала па прашэннях прыватных асоб выконваліся вельмі марудна. Маруднасць гэта была вынікам абсалютнай адсутнасці кантролю за выкананнем зробленых распараджэнняў, бо ў большасці выпадкаў звесткі, якія былі запатрабаваны, не толькі не дастаўляліся, а нават на працягу пяці, шасці і болей год не рабілася ніякага адказу [3, арк. 51 ад.]. Такая ж маруднасць назіралася ва ўсіх сталах, гэта пры водзіла да парушэння сувязей паміж губернатарам і рознымі ўстановамі, як падначаленымі, так і вышэйстаячымі. Напрыклад, распараджэнні ге нералгубернатара часам пакідаліся ўвогуле без адказу ці выконваліся праз год [3, 11 ад.]. Віленскі генералгубернатар Бібікаў канстатаваў, што атрымліваў інфармацыю пра становішча ў губерні прыватным чынам, паколькі падначаленыя яму месцы не даносілі аб розных, часам ціка вых, здарэннях [7]. Са значным спазненнем выконваліся цыркуляры Міністэрства ўнутраных спраў, загады Сената і нават распараджэнні самога імператара. Трэба адзначыць, што загружанасць сталоў была рознай. Так, шмат спраў прыпадала на казначэйскі і пашпартны сталы канцылярыі віцебскага губернатара, у той час як у гаспадарчым стале «заняткі … былі вельмі нязначныя» [3, арк. 16].

Акрамя сталоў канцылярыя губернатара мела архіў і рэгістратуру, дзе вяліся кнігі і рэестры. Архіў канцылярыі павінен быў падзяляцца на



бягучы (уставы, рэгламенты, інструкцыі і ўсе дакументы і кнігі, якія патрэбны для даведак і бягучага справаводства) і канчатковы (справы, якія былі канчаткова вырашаны і выкананы, справы, па якім удзельнікі не з'явіліся ў прызначаны час, а таксама кнігі і дакументы, непатрэб ныя для бягучага справаводства і даведак) [8, арт. 69]. Аднак, як ужо было адзначана, архіў гэты насамрэч з'яўляўся свайго роду складам для непатрэбных папер.

У склад канцылярыі разам з яе кіраўніком уваходзілі два штатных чыноўнікі для асобых даручэнняў (віленскаму губернатару дазвалялася мець пры сабе трох чыноўнікаў для асобых даручэнняў) [9], сакратары, іх памочнікі, журналіст і экзекутар (чыноўнік, якія наглядаў за гаспа дарчымі справамі ўстановы, назіраў за парадкам у канцылярыі) з іх па мочнікамі, перакладчыкі, дзе яны былі патрэбны, і канцылярскія слу жачыя, па штатах [10]. Служачыя канцылярыі знаходзіліся ў вядзенні губернатара і падначальваліся непасрэдна яму. Назначэнне і звальнен не гэтых чыноўнікаў залежала ад губернатара. Толькі чыноўнікі для асо бых даручэнняў пры ім назначаліся і звальняліся па зацвярджэнні міністра ўнутраных спраў [8, арт. 647].

Закон абавязваў кіраўніка канцылярыі выконваць «галоўны і сталы нагляд за ўсім», што адбывалася ў канцылярыі [11]. Звычайна на гэтую пасаду губернатары падбіралі

найбольш давераных і блізкіх асоб. Змена губернатара вельмі часта прыводзіла да змены і кіраўніка канцылярыі. Так, напрыклад, пачынаючы з 1850 і па 1871 г. кожны новы віленскі гра мадзянскі губернатар прызначаў і новага кіраўніка сваёй канцылярыі. Кіраўнікі канцылярыі, як правіла, удзельнічалі ў выпрацоўцы ўсіх най больш важных губернатарскіх рашэнняў і такім чынам аказвалі вялікі ўплыў на ход адміністрацыйнага кіравання. Былі выпадкі, калі губер натар поўнасцю перадаваў справы свайму кіраўніку канцылярыі. Са слоў пракурора Г. Дабрыніна, пры віцебскім губернатары С. А. Шышкіне фактычна «губерняй кіраваў сакратар яго» [12].

Пры грамадзянскім губернатары знаходзіліся чыноўнікі для асобых даручэнняў. Яны займаліся найбольш важнымі для начальніка губерні справамі: расследаваннем службовых злоўжыванняў і беспарадкаў, рэві зіямі дзяржаўных устаноў, выкананнем сакрэтных распараджэнняў, вы падкамі непадпарадкавання ўладам [13]. З гэтым месцам «злучаліся на меры на будучую кар’еру, на кавалак хлеба, на самастойнае існаванне, быць можа, нават на досыць выгадную жаніцьбу» [7]. Штат канцылярыі зацвярджаўся Сенатам [14]. Канцылярыі грама дзянскіх губернатараў Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай



губерняў фарміраваліся па «звычайным штаце», а Віленскай — па «асаб лівым» [9]. Розніца была ў тым, што ў Віленскай губерні, як памежнай, была пасада перакладчыка [9; 15]. Прыкладны склад губернатарскай канцылярыі можна разгледзець на аснове дадзеных аб канцылярыі віцеб скага губернатара. Так, на падставе штату 1845 г., яго канцылярыя скла далася з кіраўніка канцылярыі, 3 старшых і 3 малодшых памочнікаў кіраўніка канцылярыі і рэгістратара. Акрамя таго, пры губернатары зна ходзіліся 2 старшых і 2 малодшых чыноўнікі для асобых даручэнняў, якія атрымоўвалі жалаванне па штаце, 1 старшы і 1 малодшы — без жала вання. З адпушчаных па штаце сродкаў адна частка выкарыстоўвалася на выдачу платы 12 штатным чынам, а з астатняй сумы ўтрымліваліся 10 канцылярскіх служачых і пісараў, якія знаходзіліся на службе, і 6 воль нанаёмных пазаштатных супрацоўнікаў [3, арк. 43 ад. — 44]. Канцы лярскія пісары падзяляліся на пісараў ніжэйшага, першага, другога і трэцяга разрадаў [16]. Такім чынам, колькасць усіх працаўнікоў канцы лярыі віцебскага губернатара складала 42 асобы. Аднак колькасць слу жачых не была аднолькавай увесь час. Гэта адбывалася зза таго, што склад канцылярыі залежаў ад сумы грошай, выдаткаваных на яе ўтры манне. Губернатар не меў права выходзіць за межы гэтай сумы. Рэшткі, якія скланіся напрыканцы года, губернатар мог скарыстаць на пакупку для канцылярыі кніг законаў ці канцылярскіх матэрыялаў, а таксама на прызначэнне часовай дапамогі для заахвочвання чыноўнікаў і служа чых канцылярыі [8, арт. 646].

З-за сваёй набліжанасці да губернатара служачыя маглі засяродж ваць у сваіх руках усё кіраванне губерняй. Пра ролю кіраўніка канцы лярыі было адзначана вышэй. А што тычыцца яго старшых памочнікаў, то яны вялі ўсе справы самастойна і свядома не дапускалі сваіх падна чаленых «амаль ні да якіх спраў, ні да складання дакладаў і падрыхтоўкі праектаў выканаўчых лістоў, а займалі іх адной толькі перапіскаю» [3, арк. 18 ад.]. Такім чынам яны імкнуліся паставіць у залежнасць ад сябе губернатара. Характэрна, што ў беларускіх губернях на гэтых і іншых пасадах у канцылярыі служылі ў большасці сваёй мясцовыя ўра джэнцы [7].

«Служыць, зрабіцца чыноўнікам, вечна пісаць і пісаць за пыльнымі пацямнелымі вокнамі гэтых канцылярый — такой дзіўнай ідэі і ў галаву не магло прыйсці самаму апошняму памешчыку» [17, с. 97]. Так харак тарызуе аўтар гэтых радкоў адносіны дваранства да дзяржаўнай служ бы, працы канцылярыі. Увогуле, паместнае дваранства ставілася з па гардай да дзяржаўнай службы. У дваранскім асяродку чыноўнікі канн-

цылярыі не карысталіся павагай і ўспрымаліся як істоты «адмысловага гатунку, і пускаць іх у гасціную было не заўсёды зручна» [17, с. 95]. Сап раўды, канцылярскія служачыя павінны былі «вечна пісаць і пісаць», паколькі ў гэты перыяд агульнай тэндэнцыяй справаводства з'яўлялася павелічэнне дакументазвароту. Магчымасць прасачыць за гэтай з'явай дае нам «Алфавіт спраў канцылярыі Мінскага губернатара за 1800— 1831 гг.» [18, с. 151]. Аналіз колькасці спраў за гэты перыяд дазваляе зрабіць вывад аб росце дакументазвароту канцылярыі, які павялічыўся з 35 спраў у 1800 г. да 170 у 1830 г. [18, с. 152]. Гэты рост быў нераўнамер ны, наадварот, назіраліся вялікія хістанні, аднак агульная тэндэнцыя павелічэння дакументазвароту бясспрэчная [18, с. 153]. Апрача звычай ных кніг з уваходнымі і выходнымі паперамі, прыходнарасходных у канцылярыі грамадзянскага губернатара вяліся асобыя рэестры (най вышэйшых наказаў, загадаў Сената і прадпісанняў міністраў; папер, якія ў арыгінале перадаваліся ў губернскае праўленне, прыказ грамадскай апекі і ў розныя камісіі і камітэты; сакрэтных спраў; алфавітных рэест раў просьбам, якія падаваліся на імя губернатара; канчатковых прысу даў, па якіх дадзена згода губернатара; выдадзеных падарожных; выда дзеных замежных пашпартоў) [8, арт. 643]. Трэба адзначыць, што пера лічаныя кнігі і рэестры ў канцылярыі вяліся вельмі дрэнна. У прыват насці, сенатарская рэвізія канцылярыі віцебскага губернатара выявіла, што многія кнігі адсутнічалі, а тыя, якія знаходзіліся ў канцылярыі, вя ліся няправільна ці змяшчалі шмат памылак, былі не пранумараваны і не прашнураваны, без належных у канцы надпісаў пра колькасць лістоў [3, арк. 44 ад. — 48].

Перад адменай прыгоннага права правячыя колы пачалі шукаць сродкі ўзмацнення эфектыўнасці дзеяння губернатарскіх канцылярый, вызвалення губернатараў ад празмернай занятасці бягучымі справамі і тымі, якія не маюць вялікай важкасці. Па сутнасці, было два шляхі: ар ганізацыйная перабудова і спрашчэнне справаводства, павелічэнне ак ладаў чыноўнікам. Аклады былі прыняты ў 1845 г., і кіраўнік канцыля рыі атрымліваў 600 руб., старшы чыноўнік па асобых даручэннях — 500 руб., малодшы — 430 руб. [19]. Між тым у губернях былі раўназ начныя і больш аплачваемыя пасады. Зразумела, што чыноўнікі губер натарскіх канцылярый мянялі месца службы «пры першай жа магчы масці … на іншыя больш выгадныя справы» [20, с. 191]. Такім чынам, цяжка было не толькі прымусіць іх добра працаваць, але і запоўніць ва кантныя месцы дасведчанымі і працаздольнымі людзьмі. Вось і атры моўвалася, што канцылярыя складалася з «… служачых чыноўнікаў:



хітраватых, нязграбных людцаў, семінарскіх выкідышаў падзякскага тыпу, якія перабіваліся па прыказцы: "са скарыначкі на скарыначку, са скрутка ў рагожку", якія бралі адкрыта хабары, без якіх і пражыць было неймаверна пры васьміі дванаццацірублёвых акладах жалавання ў ме сяц» [17, с. 95]. Яшчэ ў 1861 г. у межах камісіі «Аб губернскіх і павято вых установах» быў выпрацаваны праект «пераўтварэння губернскіх ус таноў», які прадугледжваў ліквідацыю дубліравання функцый між гу бернскімі праўленнямі і губернатарскімі канцылярыямі шляхам іх аб'яднання [20, с. 191]. Гэты праект не атрымаў далейшага руху. У рэ чаіснасці роля і значэнне губернскіх праўленняў падалі, а губерна тарскіх канцылярый узрасталі. 1 верасня 1864 г. у Дзяржаўны савет быў прадстаўлены праект «Аб перабудове губернскіх устаноў ведамства Міністэрства ўнутраных спраў». Разглядаемы законапраект толькі больш дакладна размяжоўваў кампетэнцыю губернатарскіх канцыля рый і губернскіх праўленняў. Адначасова ён намячаў скарачэнне поруч з дробнымі «канцылярскімі служачымі» аднаго чыноўніка для асобых даручэнняў у губернатарскай канцылярыі. За іх кошт прадугледжвала ся павялічыць аклады астатнім чыноўнікам. Усё гэта разам з мяркую чым

прадстаўленнем губернатарам шэрагу функцый, якія раней выкон валіся цэнтральнымі ўстановамі Міністэрства ўнутраных спраў, павін на было паменшыць аб’ём бягучай, малазначнай працы і дазволіць ім сканцэнтравацца на рашэнні вялікіх пытанняў мясцовага кіравання [20, с. 192]. Дзяржаўны савет у красавіку — траўні 1865 г. ухваліў асноўныя палажэнні праекта. Імператар 8 чэрвеня 1865 г. зацвердзіў праект без усялякіх паправак. Аднак прынятыя «Часовыя правілы пра пераўтва рэнне губернскіх устаноў ведамства Міністэрства ўнутраных спраў у 37мі губернях і ў Бесарабскай вобласці» не распаўсюджваліся на бела рускія губерні [21]. Гэтыя «Часовыя правілы» павінны былі толькі па класці пачатак перабудове працы губернатарскіх канцылярый на ўсёй тэрыторыі Расійскай імперыі. Але перабудова адбывалася ва ўмовах моцнага дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту. Ужо ў кастрычніку 1866 г. Аляксандр II прадпісаў кіраўнікам усіх ведамстваў скараціць каштары сы на год. У сувязі з гэтым асігнаванні на губернскія ўстановы Міністэр ства ўнутраных спраў былі скарочаны на 3 тысячы рублёў у кожнай гу берні [20, с. 193]. Міністр унутраных спраў П. А. Валуеў цыркулярам ад 4 лістапада 1866 г. рэкамендаваў губернатарам «пакрыць гэтую суму сродкамі не замяшчэння некаторых пасад». Сярод іх называліся паса ды чыноўніка асобых даручэнняў і памочніка рэгістратара па губерна тарскай канцылярыі. Пазней у цыркуляры ад 7 снежня 1866 г. П. А. Ва-



луеў паказаў губернатарам яшчэ адзін шлях скарачэння расходаў — гэта звальненне са службы «малапрыгодных» і «тых, якія перасталі быць патрэбнымі», чыноўнікаў. Атрымоўвалася, што цыркулярныя прадпі санні міністра ўнутраных спраў фактычна зводзілі на нішто ў 1867 г. шматлікія меры, якія павінны былі садзейнічаць больш эфектыўнай працы губернатарскіх канцылярый [20, с. 194].

Падводзячы вынік, можна сказаць, што канцылярыя грамадзянска га губернатара прызначана была дапамагчы яму выконваць свае служ бовыя абавязкі. Яна сканцэнтравала ў сабе ўсё справаводства і з’яўля лася сувязным звяном паміж губернатарам і іншымі адміністрацыйнымі ўстановамі. Праз канцылярыю як своеасаблівы інфармацыйны цэнтр праходзілі звесткі аб усіх сферах грамадскага жыцця. Установа выкон вала сакратарскія абавязкі. Акрамя гэтага, з’яўлялася архівам выраша ных дакументаў. Вядзенне, выкарыстанне, захаванне спраў і кніг пашы рала функцыі ўстановы. У канцылярыю звярталіся за пацвярджэннем правоў, атрыманнем розных даведак, пасведчанняў і г. д. Ускладзеныя на канцылярыю функцыі выконваліся, аднак тэмп і якасць іх выканан ня былі нездавальняючымі. Доўгі час свайго існавання канцылярыя не мела структурных падраздзяленняў. Справы вырашаліся агульным па токам без групавання па прыкметах. Эфектыўнасць жа кіраўніцтва звя зана з арганізацыяй справаводства, яго рацыянальнай пабудовай. Таму з’яўленне ў пачатку 30х гг. XIX ст. у канцылярыі губернатара структур ных падраздзяленняў — гэта новы і прагрэсіўны крок. Губернатарская канцылярыя складалася з шэрагу чыноўнікаў, колькасць якіх не была аднолькавай, а павялічвалася па меры росту апарату кіравання і вызна чалася мясцовымі ўмовамі. Служачыя канцылярыі знаходзіліся ў вя дзенні губернатара і падначальваліся непасрэдна яму. Ад яго залежала назначэнне і звальненне гэтых чыноўнікаў. Аднак зза сваёй набліжа насці да губернатара служачыя маглі засяроджваць у сваіх руках усё кіра ванне губерняй. Асабліва моцным уплывам карыстаўся кіраўнік губер натарскай канцылярыі. Звычайна на гэтую пасаду губернатары падбі ралі найбольш davераных і блізкіх асоб. Змена губернатара вельмі часта прыводзіла да змены і кіраўніка канцылярыі.

Разглядаемы перыяд развіцця губернатарскіх канцылярый характа рызуецца тэндэнцыяй росту дакументазвароту, хоць ён быў нераўнамер ны і назіраліся вялікія хістанні. У гэты час павялічваецца колькасць кніг і рэестраў, якія вяліся (праўда, вельмі

дрэнна) у канцылярыі. Ва ўсіх ста лах назіралася маруднасць і адсутнасць кантролю за выкананнем рас параджэнняў. Толькі сакрэтныя справы ў большасці сваёй вяліся дак-



ладна і акуратна. Гэта прыводзіла да парушэння сувязей паміж губерна тарам і рознымі ўстановамі, як падначаленымі, так і вышэйстаячымі. Перад адменай прыгоннага права правячыя колы пачалі шукаць сродкі ўзмацнення эфектыўнасці дзеяння губернатарскіх канцылярый. Але ж распачатыя мерапрыемствы не былі распаўсюджаны на беларускія гу берні, а там, дзе яны праводзіліся, сутыкнуліся з дэфіцытам дзяржаўна га бюджэту, і прадпісаннямі міністра ўнутраных спраў фактычна былі зведзены на не ў 1867 г. Аб больш эфектыўнай працы губернатарскіх канцылярый заставалася толькі марыць.

## ЛІТАРАТУРА

1. Киселев, А. А. Система государственных учреждений и чиновничество Беларуси в политике российского правительства (конец XVIII — первая половина XIX в.): дис. … канд. ист. наук: 07.00.03 / А. А. Киселев. Минск : БГУ, 2003. 189 с.; Киселев, А. А. Система управления и чиновничество белорусских губерний в конце XVIII — первой половине XIX в.: монография / А. А. Киселев. Минск : Военная академия Республики Беларусь, 2007. 171 с.
2. Шпилевская, И. Н. Становление и особенности делопроизводства в канцелярии минского губернатора / И. Н. Шпилевская // Беларус. археаграф. штогоднік. 2003. Вып. 4. С. 147—156; Шпилевская, И. Н. Указ 1837 г. и новое организационное устройство канцеля рий в России / И. Н. Шпилевская // Беларус. археагр. штогоднік. 2004. Вып. 5. С. 175—182.
3. Национальный исторический архив Беларуси (далее — НИАБ). Фонд 1430. Кан целярия витебского гражданского губернатора. Оп. 1. Д. 25436.
4. НИАБ. Фонд 2001. Канцелярия могилевского гражданского губернатора. Оп. 1. Д. 373. Л. 2—3.
5. НИАБ. Фонд 295. Канцелярия минского гражданского губернатора. Оп. 1. Д. 581. Л. 1—10.
6. Минская губерния: государственные, религиозные и общественные учреждения: 1793—1917: справочник / Комитет по архивам и делопроизводству при Совете Министров Республики Беларусь, НИАБ; сост. Т. Е. Леонтьева. Минск : БелНИИДАД, 2006. С. 12.
7. Киселев, А. А. Система государственных учреждений и чиновничество Беларуси в политике российского правительства (конец XVIII — первая половина XIX в.): дис. … канд. ист. наук: 07.00.03 / А. А. Киселев. Минск : БГУ, 2003. С. 74.
8. Свод законов Российской империи, повелением гос. имп. Николая Павловича составленный. Изд.1842 г. [Т. 1—15]. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1842. Т. II. Ч. 2. Учреждения губернские. — 7, 1011, 588 с.
9. Полное собрание законов Российской империи. Собрание второе: в 55 т. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1830—1884 гг. 1838. Т. XII. Отд. 2. № 10303.
10. Свод законов Российской империи, повелением гос. имп. Николая Павловича составленный. Изд.1832 г. [Т. 1—15]. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1832. Т. II. Ч. 2. Учреждения губернские. Ст. 305.
11. Свод законов Российской империи, повелением гос. имп. Николая Павловича составленный. Изд.1857 г. [Т. 1—15]. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1857. Т. II. Ч. 1. Общее губернское учреждение. Ст. 710.

12. Любезный мне город Витебск…: мемуары и док.: конец XVIII — начало XIX в. / вступ. ст., науч., коммент., сост., публ. В. А. Шишанова. Минск : Асобны Дах, 2005. С. 40.
13. НИАБ. Фонд 2001. Канцелярия могилевского гражданского губернатора. Оп. 1. Д. 512. Л. 48—49 об.
14. Полное собрание законов Российской империи. Собрание первое: в 45 т. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1830 г. Т. XXIII. № 17112.
15. Памятная книжка Виленской губернии на 1864 год. Вильно : Тип. А. Сыркина, 1864. С. 5.
16. НИАБ. Фонд 1430. Канцелярия витебского гражданского губернатора. Оп. 1. Д. 12940. Л. 1 об. 28.
17. Окрейц, С. С. Далекие годы. Автобиографическая хроника / С. С. Окрейц. СПб. : Тип. Гл. упр. уделов, 1899. 4, 251 с.
18. Шпилевская, И. Н. Становление и особенности делопроизводства в канцелярии минского губернатора / И. Н. Шпилевская // Беларус. археаграф. штогоднік. 2003. Вып. 4. С. 147—156.
19. Полное собрание законов Российской империи. Собрание второе: в 55 т. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1830—1884 гг. 1846. Т. XX. Отд. 2. № 18580.
20. Шумилов, М. М. Губернаторские канцелярии и губернские правления в России 50—80х гг. XIX в. / М. М. Шумилов // Проблемы социальноэкономической и полити ческой истории России XIX—XX веков / Рос. акад. наук, С.Петерб. фил. Инта рос. истории; редкол.: А. Н. Цамутали (отв. ред.) [и др.]. СПб., 1999. С. 187—199.
21. Полное собрание законов Российской империи. Собрание второе: в 55 т. СПб. : Тип. II отд. Собств. Его Имп. Вел. Канцел., 1830—1884 гг. Т. XL. Отд. 1. № 42180.